ГРОДНА
№14 (566),
11 ліпеня

# СЛОВА ЖЫЦЦЯ

ГАЗЕТА ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ



## Верная ажно па крыж




*Хрысціянская традыцыя паказвае нам Марыю Магдалену як асобу, якая каецца.*

на старонцы 2

## Ад Беларусі да Швейцарыі. Ці спраўджваецца паўсюднасць Касцёла?



*Гродзенка пра досвед практыкі веры ў Швейцарыі.*

на старонцы 6

## Прыватная пачаткова школа "Святло ведаў" у Мінску



*Трывае набор вучняў 2–4 класаў. Выдатныя настаўнікі, безліч талентаў і якасная адукацыя па-беларуску. Запрашаем!*

на старонцы 7

# ЯНА СТАЛА ПРЫКЛАДАМ ЗВЫЧАЙНАГА ЧАЛАВЕКА, НАШАГА МЯСЦОВАГА СЕЛЯНІНА




*Побач з помнікам забітым жыхарам Гродна і Ліпска ў Навумавіцкім лесе*

**13 чэрвеня 1999 года папа Ян Павел II абвясціў бласлаўлёнымі цэлы шэраг ахвяр II Сусветнай вайны з Беларусі: марыянаў з Росіцы, францысканцаў з Івянца, Мар'яну Бярнацкую і іншых. Іх гісторыі вельмі падобныя – усе вызваліся быць забітымі замест іншых людзей.**

на старонцы 3

# "Я ХАЦЕЛА Б УБАЧЫЦЬ СВАЕ ПРАЦЫ ЧУЖЫМІ ВАЧАМІ", –

## ЯДЗВІГА СЯНЬКО, МАСТАЧКА, ЯКАЯ ПІША ІКОНЫ



*Усемагутны Бог дае Ядзвізе жаданне працаваць і тварыць*

**З 12 па 18 чэрвеня 2021 года паломнікі на аўтамабілях правезлі па Беларусі 8 копій абразоў Маці Божай з вядомых санктуарыяў краіны. Іх напісала мастачка-афармляльніца Ядзвіга Сянько з Маладзечна па просьбе ініцыятара паломніцтва кс. каноніка Уладзіслава Завальнюка.**

на старонцы 5

СЛОВА РЭДАКТАРА

# Дарагія Чытачы!

З самага пачатку хрысціянства паслядоўнікі Хрыста былі вымушаны плаціць жыццём за сваю веру. Гісторыя Касцёла адзначана крывёй мучанікаў. ХХ стагоддзе часам называюць "стагоддзем мучанікаў", таму што ніколі раней за веру не гінула столькі людзей, у тым ліку і на нашай зямлі.

Аднак мучаніцтва не азначала для вернікаў ні прысуду лёсу, які ў пэўныя гістарычныя перыяды станавіўся непазбежным, ні трывання бязмэтных пакут, якія нікому б не служылі. Замест гэтага яго разумелі як ідэал — найбольш радыкальную магчымасць наследавання Хрысту. Людзі хацелі быць вернымі Езусу і Яго Евангелю да канца, рэалізуючы сваё пакліканне, практыкуючы веру, праяўляючы міласэрнасць, дзейнічаючы на карысць міру, служачы бліжнім незалежна ад небяспекі.

Мучанікі сёння вучаць нас, што багацце і ўшанаванне не маюць вялікага значэння, а адзіным сапраўдным скарбам чалавека павінен быць Хрыстос.

Ушаноўваючы мучанікаў Другой сусветнай вайны, просьма Бога, каб мы здолелі захаваць атрыманую веру, якая з'яўляецца нашым сапраўдным скарбам!



кс. Jerzy Martinowicz

КАЛЯНДАР

**12 ліпеня**

***Успамін св. Бруна Баніфацыя Кверфуртскага.***

*Бруна, народжаны ў багатай нямецкай сям'і ў 974 годзе, у маладосці быў капеланам імператара Атона ІІІ. Далучыўся да бенедыктынцаў у Рыме і прыняў імя Баніфацый. Потым жыў у пустэльні св. Рамуальда ў Перэуме каля Равены. Пасланы папам Сільвестрам ІІ на чале місіі ў Прусію, ён атрымаў біскупскае пасвячэнне ў Магдэбургу. У 1008 годзе дабраўся да Прусіі, дзе ў наступным годзе быў забіты разам з 18-цю паплечнікамі ў зямлі яцвягаў.*

**15 ліпеня**

***Успамін св. Бонавентуры, біскупа і доктара Касцёла.***

*Бонавентура нарадзіўся каля 1218 года ў Баньорэджо ў Італіі. Вывучаў філасофію і тэалогію ў Парыжы. Атрымаўшы ступень магістра, ён выкладаў гэтыя дысцыпліны сваім сабратам у Ордэне Меншых Братоў. Абраны генералам ордэна, кіраваў мудра і разважліва. Быў прызначаны кардыналам і біскупам Альбана. Памёр у 1274 годзе падчас Ліёнскага сабору. З'яўляўся аўтарам шматлікіх выдатных прац па філасофіі і тэалогіі.*

**16 ліпеня**

***Успамін Найсвяцейшай Панны Марыі з Гары Кармэль.***

*Ушанаванне Маці Божай Шкаплернай звязана з аб'яўленнямі, якія атрымаў генерал Кармэліцкага ордэна Сымон Сток у 1251 годзе. Найсвяцейшая Маці ўручыла яму шкаплер, адначасова паабяцаўшы, што ўсе, хто будзе яго насіць, пазбегнуць асуджэння. Для ўсяго Касцёла гэтае свята было зацверджана папам Бенедыктам XIII у 1726 годзе.*

**22 ліпеня**

***Свята св. Марыі Магдалены.***

*Магдалена, верная вучаніца Хрыста, прысутнічала пры Яго смерці і першай убачыла Яго пасля ўваскрасення раніцай пасхальнага дня (параўн. Мк 16, 9). Яе культ распаўсюдзіўся па ўсім Заходнім Касцёле з XII стагоддзя. З самага пачатку яна таксама апекуецца Кангрэгацыяй Маці Божай Міласэрнасці, да якой належала св. сястра Фаўстына, і асаблівым чынам дзяўчатамі і жанчынамі, што патрабуюць маральнага адраджэння, выхаваннем якіх займаюцца сёстры.*

**23 ліпеня**

***Свята св. Брыгіты Шведскай. Манахіні, заступніцы Еўропы.***

*Брыгіта нарадзілася ў 1303 годзе ў Швецыі. У дзявоцтве была выдадзена замуж. У сужэнстве ў яе было 8 дзяцей, якіх вельмі старанна выхоўвала. Належала да ІІІ Ордэна св. Францішка. Пасля смерці мужа захацела больш аскетычнага жыцця, чым вяла ў свецкім. Заснавала новы ордэн і адправілася ў Рым. Напісала шмат містычных твораў, у якіх расказвала пра свае перажыванні і адкрыцці. Памерла ў Рыме ў 1373 годзе.*

# ВЕРНАЯ АЖНО ПА КРЫЖ

працяг са с. 1

**Некалькі гадоў таму – а дакладней, у 2016 годзе – успамін св. Марыі Магдалены быў узведзены да рангу свята. Для нас гэта важнае накіраванне і падказка, каб у святой шукаць асаблівы ўзор хрысціянскага жыцця. Часцей за ўсё Марыя Магдалена паказваецца як апосталка апосталаў і весніца ўваскрасення.**

*Кс. Юрый Марціновіч*

Магчыма, варта адзначыць яшчэ адно вымярэнне яе жыцця, якое неабходна ў наш час, але, на жаль, недаацэньваецца – пакаянне. Хрысціянская традыцыя паказвае нам Марыю Магдалену менавіта як асобу, якая каецца, якая дзесьці ў строгай пустэльні праводзіць сваё жыццё і паддае сябе розным утаймаванням. Такі вобраз гэтай святой вынікае з евангельскіх запісаў, у якіх гаворыцца, што пасля свайго ўваскрасення раніцай у першы дзень тыдня Езус з'явіўся найперш Марыі Магдалене, з якой выгнаў сем злых духаў (параўн. Мк 16, 9).

Мы можам толькі ўявіць, якім было яе жыццё, калі была апантаная столькімі дэманамі. Таму, калі Езус іх прагнаў, Магдалена не магла знайсці спосабаў адплаціць за такую вялікую ласку. Па гэтай прычыне з таго часу яна аддана следавала за Хрыстом, служыла Яму і была верная ажно па крыж. З-за сваёй удзячнай любові яна першай накіравалася да магілы Настаўніка велікоднай раніцай.

Выходзячы з Традыцыі, можам зрабіць выснову, што пасля Унебаўшэсця Пана Езуса Марыя аддалася пакаянню, якое, верагодна, мела вымярэнне атрымання асалоды ад удзеленага дару і ўзнагароджання за ўчыненыя грахі. Такое стаўленне можа ў чалавеку выклікаць толькі Святы Дух. Ён таксама можа даць сілы, каб весці падобнае жыццё.

**Св. Марыя Магдалена з'яўляецца заступніцай жаночых манаскіх кангрэгацый, а таксама дзяцей, якія маюць праблемы з хаджэннем, цырульнікаў, жанчын, спакушаемых асоб, садоўнікаў, студэнтаў і вязняў.**

Адкрыццё на ўздзеянне Святога Духа ў сваім жыцці прывядзе нас спачатку да таго, што ўбачым, як мы абавязаны Богу, колькі ласкаў пастаянна атрымліваем ад Яго. З іншага боку, Святы Дух дапамагае нам зразумець, як часта марнуем гэтыя Божыя дары, выбіраючы грэх. Любоў, якою адорвае нас Пан, будзе заахвочваць нас па прыкладзе Марыі Магдалены пачаць жыць духам пакаяння і ўзнагароджання за грахі ўласныя і іншых.





Тыцыян, Марыя Магдалена, 1565 г.

**Свята св. Марыі Магдалены адзначаем 22 ліпеня.**

Таму, магчыма, трэба пачаць з самага простага: вярнуцца да салідная ўспрыняцця пятнічнага посту, г. зн. устрымання ад мяса ў кожную пятніцу на працягу ўсяго года, а не толькі падчас Адвэнту і Вялікага посту. Такое адмаўленне здаецца вельмі сціплай формай посту. Можна таксама, згодна з належнай ацэнкай сваіх магчымасцей, узяцца за іншыя формы пакаяння: пост на хлебе і вадзе, дадатковыя самаўтаймаванні (абмежаванне тэлебачання, інтэрнэту, мабільнага тэлефона, прысмакаў). Калі мы дазволім Святому Духу кіраваць сабой, Ён падкажа, што можам з гэтым зрабіць. Тым больш, што сучасны свет можа нам многае прапанаваць, з чаго не ўсё служыць нашаму духоўнаму развіццю.

Таму давайце будзем пераймаць Марыю Магдалену, якая так палюбіла Бога, што не баялася каяцца ў сваіх грахах, каб яшчэ больш удасканаліцца ў гэтай любові.

# ГІСТОРЫК ПРА РАССТРЭЛ БЛ. МАР'ЯНЫ БЯРНАЦКАЙ: "ЯНА СТАЛА ПРЫКЛАДАМ ЗВЫЧАЙНАГА ЧАЛАВЕКА, НАШАГА МЯСЦОВАГА СЕЛЯНІНА"

працяг са с. 1

**Разам з гісторыкам Дзмітрыем Люцікам прыглядаемся да акалічнасцей расстрэлу адзінай свецкай асобы са спісу мучанікаў ІІ Сусветнай вайны – бл. Мар'яны Бярнацкай.**

Арцём Ткачук

*– У сваіх працах Вы ўзгадваеце гісторыю шматдзетнай сям'і Юзафа Вэвюрскага з Гродна. Яго таксама меліся расстраляць у 1942 годзе, але гродзенец Ян Каханоўскі папрасіў, каб яго расстралялі замест Юзафа. І так сталася. Як Вам думаецца, чаму менавіта ўчынак бл. Мар'яны Бярнацкай прыцягнуў увагу Касцёла?*

– Я таксама разважаў пра гэта. Па-першае, яна жанчынай. Па-другое, падаецца, што Каханоўскаму было крыху лягчэй: усё-такі ён быў адзін і яго жыццё належала толькі яму. Да таго ж Мар'яна, хутчэй за ўсё, была рэлігійнай жанчынай. Гэты ўчынак у хрысціянскай традыцыі вельмі накладаецца на каноны. А Каханоўскі, як па мне, быў чалавекам навукі. Ён паступіў паводле сумлення, як сапраўдны мужчына. Я заўсёды кажу, што салдату прасцей зрабіць штосьці падобнае – кінуцца на амбразуру, аддаць жыццё.

Таксама прасцей гэта рабіць на вачах у іншых: ты адчуваеш сябе героем хаця б у апошнія хвіліны свайго жыцця. І нашмат цяжэй рашыцца на падобнае сам-насам, калі напэўна ніхто пра гэта не ўзгадае і не даведаецца *(бл. Бярнацкая папрасіла расстраляць яе замест нявесткі практычна без сведкаў – заўв. аўт.)*.

Таму Мар'яна Бярнацкая стала прыкладам звычайнага чалавека, нашага мясцовага селяніна, для якога былі вельмі важнымі словы Святога Пісання. На маю думку, яна была маральна гатовая да такога ўчынку. Каханоўскі быў крыху ў іншым становішчы. Але гэта ўсё, канешне, толькі мае інтэрпрэтацыі.

*– Ці правільна я разумею, што гэтыя гісторыі – толькі вяршыня айсберга? Напэўна, іх у разы больш. Шмат губляецца з-за адсутнасці дакументаў і з-за таго, што, у асноўным, мы ведаем пра іх з аповедаў сведкаў. Нават пра Бярнацкую мы даведаліся, перш за ўсё, з расповедаў нявесткі, замест якой яна папрасілася ісці на расстрэл?*

– Так, Вы маеце рацыю.

*– Гэтыя гісторыі падобныя, але менавіта выпадак бл. Мар'яны ўрэзаўся ў свядомасць і памяць людзей. Яе гісторыю не забылі за шмат гадоў, і яна дажыла да 90-ых, калі і адбылася беатыфікацыя. А з іншымі выпадкамі, у тым ліку і з гісторыяй Яна Каханоўскага, так не адбылося. Чаму?*

– Магчыма, справа ў тым, што Каханоўскі быў чалавекам горада. А Гродна ў тыя часы перажывала вялікія пертурбацыі: змену парадыгмы, ідэалогіі. Фактычна гэта была Польшча, пазней паўтары гады савецкай улады, потым акупацыя, затым зноў савецкая ўлада. Таму горад вельмі моцна змяніўся. То-бок, Гродна 1950-ых гадоў – гэта зусім іншае Гродна, чым тое, што было ў 1930-ых. Зусім іншы свет. Мне здаецца, асяроддзе Каханоўскага проста знікла. Яго расстралялі, а астатнія... Хтосьці не перажыў вайны, хтосьці выехаў, хтосьці трапіў у лагеры.

Мар'яна Бярнацкая была чалавекам вясковым, больш традыцыйным. Яе свет застаўся, традыцыі захоўваліся і перадаваліся, у пэўнай ступені выпешчваліся. Магчыма, гэта падтрымлівалася святарамі, Касцёлам. Аднак адназначна ўсё замацавалася ў памяці людзей.



**Дзмітрый Люцік – гісторык, настаўнік гісторыі ў гродзенскай гімназіі №4, аўтар 8-мі кніг і некалькіх дзесяткаў навукова-папулярных артыкулаў. Спецыялізуецца ў ваеннай гісторыі. Бацька дваіх дзяцей, практыкуючы праваслаўны вернік.**

*– На расстрэл людзей вывозілі на другі форт. Як адзін з аргументаў Вы ўзгадваеце зручнасць даезду. Аднак падаецца, што гэта ўсё ж дастаткова далёка ад горада. Да таго ж па дарозе да другога форта шмат лясоў. Чаму выбралі менавіта гэтае месца?*

– Адлегласць да форта насамрэч невялікая. Гэта 15-20 хвілін на машынах у адзін бок. Агулам усё займала каля гадзіны. Мясцовасць бязлюдная, можна было пад'ехаць фактычна да самага месца расстрэлу – і ніхто не ўбачыць, ніхто не пачуе. Горад адпадаў, бо тут шмат людзей. На Фолюшы знаходзіўся шталаг (лагер для ваеннапалонных) – там не расстрэльвалі. Лес таксама быў няручным варыянтам: там трэба капаць, хаваць, засыпаць. На фартах жа ёсць вялікі роў, дзе лягчэй схаваць злачынствы: дастаткова прысыпаць зямлёй – і ўсё. Напэўна, карнікі пасля экзекуцый пакідалі караул. У лесе за ўсім гэтым прасачыць складаней. Таму, як па мне, другі форт быў цалкам лагічным месцам для гэтых мэт.

*– Гісторыкі кажуць, што Бярнацкую расстралялі не адразу. Яшчэ тыдзень ці два яе разам з іншымі арыштаванымі пратрымалі ў гродзенскай турме. Чаму?*

– Цяжка сказаць. Наколькі разумею, мела месца забойства нейкага немца, і людзей забралі як закладнікаў. Абвясцілі, што калі здасца забойца, усіх адпусцяць. Праўдападобна, на гэта меў быць адведзены нейкі тэрмін. Таму некалькі дзён яны мусілі пачакаць. Зразумела, што не вялося ніякіх юрыдычных працэсаў.

*– Гаворка ж ідзе пра будынак турмы, які і сёння знаходзіцца ў цэнтры Гродна?*

– Хутчэй за ўсё, так.

*– Атрымліваецца, што людзей вывозілі на расстрэл вуліцай Баторыя, паўз катэдральны касцёл, па Старым мосце?*

– Так. І вуліцай Савецкіх Пагранічнікаў, якая далей ідзе ў тым напрамку.

*– Гэта дарога з вельмі сумнай гісторыяй, своеасаблівы апошні шлях.*

– У чымсьці гэта дарога смерці. Мы ж нават не ведаем, колькі чалавек ёй маглі правезці на расстрэл. Ёсць лічба 3 тысячы, але яна вельмі абстрактная. А дакладна вядома, што другі форт быў месцам, дзе праводзіліся адны з найбольш масавых казняў акупацыйнага перыяду ў раёне Гродна.

*– Як людзі жылі ў тыя часы? Напэўна ж, жыхары ведалі пра расстрэлы. Забівалі цэлыя сем'і.*

– Усё гэта вельмі індывідуальна. Думаю, Вы знаёмы з творчасцю Руслана Кулевіча. Ён знайшоў даволі шмат людзей, якія пакінулі дастаткова ўспамінаў пра Гродна. Камусьці жылося вельмі дрэнна, камусьці больш-менш, можа, нават лепш, чым пры савецкай уладзе.

*– Карацей кажучы, жыццё працягвалася. Міма вазілі людзей расстрэльваць, а многія змаглі да гэтага неяк прыстасавацца.*

– Ведаеце, акупацыя ва Усходняй Беларусі і ў Мінску вельмі адрознівалася ад акупацыі на захадзе краіны. Гэта звязана з дзейнасцю партызан (іх наяўнасцю ці адсутнасцю), мясцовых улад, асоб немцаў, якія тут кіравалі. Дзесьці палілі вёскі, а дзесьці не. У Гродне таксама ўсё індывідуальна.

І тым не менш, нацысцкая акупацыя для большасці насельніцтва была цяжкай парой. Чалавек мог быць ні ў чым не вінаваты, але яго маглі затрымаць у якасці заложніка, а потым расстраляць. Гэта не давала людзям спакойна жыць. Паўсюль панаваў пастаянны страх – кожны дзень і кожную ноч.

*– Адразу пасля вайны савецкія ўлады не паставілі помнік на другім форце. Ён з'явіўся там нашмат пазней. У чым справа, на Ваш погляд?*

– Наколькі я сутыкаўся з фактамі, адразу пасля вайны ў нашай мясцовасці помнікі мала дзе з'яўляліся. Нават гераічныя заставы Віктара Усава, Аляксандра Кіжаватава не ўвекавечваліся. Прайшоў дастаткова вялікі перыяд, перш чым сталі вяртацца да памяці пра вайну, а ўшанаванні пачаліся дзесьці ў канцы 1950-ых – пачатку 60-ых гадоў.

У нашым выпадку гэта ж не вайсковы подзвіг і не савецкая армія, а проста мясцовыя жыхары, да таго ж не зусім беларусы – незразумела, хто і што. Каханоўскі і астатнія ўвогуле былі палякамі. Для савецкай улады гэта было трошкі не сваё, як я разумею. Нават калі помнік на другім форце ставілі, яго ўспрымалі як ушанаванне памяці загінулых ваеннапалонных, савецкіх грамадзян. Не з тым пасылам, як гэта было на самой справе.

*– У савецкія часы на другім форце праводзіліся сустрэчы польскай і беларускай моладзі.*

– Так, у 1980-ыя гады.

*– Рэлігійны і нацыянальны чыннік падзей ліпеня 1943 года замоўчваўся, я правільна разумею? Там жа таксама былі расстраляны каталіцкія святары...*

– Так, канешне. Рэлігійны кантэкст і не мог уздымацца. Гэта ўжо з'явілася пасля 1990 года. Аднак, ізноў жа, я раблю высновы толькі на падставе інфармацыі, якой валодаю. Я ўлічваю, што, хутчэй за ўсё, шмат чаго не ведаю.

*– Другі форт літаральна "паліты" крывёй. Там вяліся актыўныя баі падчас першай сусветнай, савецка-польскай, другой сусветнай войнаў, там расстрэльвалі ў акупацыйны перыяд. Падаецца, што прызнанне Мар'яны Бярнацкай благаслаўлёнай – гэта пазітыўны крок для мясцовай гістарычнай памяці ў цэлым. За яе гісторыяй адразу высоўваюцца тысячы іншых...*

– Я падтрымліваю любыя ініцыятывы, звязаныя з ушанаваннем людзей, якія загінулі ў вайне. Любых людзей. Проста нонсенс, што на нашым другім форце было забіта столькі чалавек, а ў савецкія часы аб гэтым не выдалі нават ніводнай брашуры, не правялі ніводнага даследавання. Такая няўвага вельмі дзіўная для мяне. Калі б не гэты савецкі помнік, то фактычна там нічога не было б. У літаратуры і кнігах пра другі форт ніхто нічога не ўзгадваў.

## АКТУАЛЬНА

Ватыканскае радыё

### Новая кніга пра адраджэнне Касцёла пасля распаду СССР

У Рыме была прадстаўлена кніга "Ян Павел ІІ і Каталіцкі Касцёл у Савецкім Саюзе і краінах, якія ўзніклі пасля яго распаду" (Giovanni Paolo II e la Chiesa cattolica in Urss e nei Paesi sorti dalla sua dissoluzione).

Кніга выйшла ў кантэксце 100-годдзя з дня нараджэння св. Яна Паўла ІІ пад рэдакцыяй кс. Яна Мікрута, тэолага і гісторыка, выкладчыка факультэта гісторыі і культурнай спадчыны Папскага грыгарыянскага ўніверсітэта. Яна паўстала на аснове доўгіх архіўных даследаванняў і паказвае ролю Пантыфіка ў адраджэнні Касцёла на тэрыторыі былога СССР.

Кс. Мікрут заўважыў, што важную ролю для адраджэння Касцёла на тэрыторыі былога Савецкага Саюза адыгралі ініцыятывы, дакументы і энцыклікі Яна Паўла ІІ, а таксама ўстанаўленне дыпламатычных адносін паміж Святым Пасадам і гэтымі рэспублікамі.

### Рада кардыналаў абмеркавала развіццё сінадальнасці

У анлайн-фармаце адбылося чарговае пасяджэнне Рады кардыналаў па дапамозе Святому Айцу ў кіраванні Касцёлам і падрыхтоўцы праекта рэформы Рымскай курыі.

Францішак адзначыў важнасць сінадальных працэсаў, якія адбываюцца на дыяцэзіяльным і нацыянальным узроўнях, а таксама падкрэсліў, што яны павінны знайсці сваё адлюстраванне ў распачатым нядаўна паўсюдным сінадальным працэсе. Рада таксама выказала задавальненне нядаўнім справаздачай "Moneyval" і развіццём у сферы фінансавага і эканамічнага нагляду Апостальскай Сталіцы.

Наступную сустрэчу Рады кардыналаў запланавана правесці ў верасні.

### Дэкан Калегіі кардыналаў на тэму законапраекта аб гоматрансфобіі

Кардынал Джавані Батыста Рэ, дэкан Калегіі кардыналаў, лічыць, што італьянскі законапраект аб гоматрансфобіі пад выглядам абароны ЛГБТ-асяроддзя істотна абмяжуе магчымасць дыскусій на дадзеную тэму.

Святы Пасад звярнуўся да італьянскага Міністэрства замежных спраў з вуснай заявай, у якой гаворыцца, што прыняцце такога закона парушыць гарантаваныя канкардатам правы ў сферы свабоды слова, думкі і адукацыі.

Кардынал Рэ запэўніў, што, насуперак спекуляцыям СМІ, прапанова зрабіць вусную заяву выйшла ад Пантыфіка. Іерарх падкрэсліў, што ў гэтым пытанні Святы Пасад імкнецца да дыялогу з італьянскім урадам, паколькі роля каталіцызму ў Італіі з'яўляецца адмысловай і бясспрэчнай.

### Малітоўныя інтэнцыі на ліпень

**паўсюдная**

Молімся, каб у канфліктных грамадскіх, эканамічных і палітычных сітуацыях мы былі адважнымі і поўнымі запалу творцамі дыялогу і прыязнасці.

**дыяцэзіяльная**

Молімся, каб Пан благаславіў тых, хто адпачывае, пілігрымуе і праводзіць рэкалекцыі.

# БІСКУПЫ З ГРОДНА ПРЫНЯЛІ ЎДЗЕЛ ВА ЎРАЧЫСТАСЦЯХ МАЦІ БОЖАЙ БУДСЛАЎСКАЙ


catholic.by

**2–3 ліпеня ў Будславе адбыліся традыцыйныя ўрачыстасці ў гонар Маці Божай. Сёлета з-за нядаўняга пажару базіліка была зачынена, а цудадзейны абраз Найсвяцейшай Панны Марыі быў змешчаны на палявым алтары, каб усе пілігрымы мелі магчымасць ушанаваць яго і прадставіць Маці Божай свае просьбы.**

*Кс. Юрый Марціновіч*

Угалоўнай св. Імшы, якую ўзначаліў Апостальскі нунцый у Беларусі арцыбіскуп Антэ Ёзіч, удзельнічалі таксама іерархі з Гродна: біскуп Гродзенскі Аляксандр Кашкевіч і Генеральны вікарый Гродзенскай дыяцэзіі біскуп Юзаф Станеўскі. На Эўхарыстыі прысутнічалі некалькі тысяч вернікаў з усёй Беларусі і з-за мяжы.

У гаміліі Апостальскі нунцый адзначыў, што будслаўскі санктуарый з яго цудадзейным абразом на працягу стагоддзяў штогод натхняе мноства вернікаў з усёй краіны, даючы ім новую духоўную сілу для пераадолення жыццёвых цяжкасцей і ўсё большага набліжэння да Езуса Хрыста, Збаўцы свету і ўсіх людзей.

Як дадаў прадстаўнік папы Францішка, гэты санктуарый “стаў жыватворнай крыніцай, што наталяла смагу ўсіх пакаленняў хрысціянскага народу непрамінальнымі каштоўнасцямі – каштоўнасцямі, якія натхняюць вернікаў станавіцца жывым Евангеллем для кожнага нашага бліжняга”.

Па словах арцыбіскупа, ён, наведваючы Будслаў, асаблівым чынам маліцца за мір і згоду ў нашай краіне, каб з Божай дапамогай і праз заступніцтва Маці Божай Будслаўскай удалося пераадолець усе падзелы і ўсталяваць у краіне сапраўдную культуру братэрства і салідарнасці.

## ПАЎСЮДНЫ КАСЦЁЛ

**ПОЛЬШЧА.** Арганізатары абвясцілі пра 34 паломніцтвы, якія намераны ў ліпені дасягнуць пешшу ці даехаць да Яснай Гары. Усяго ў Чанстахову ў іх дабярэцца каля 4,9 тысяч чалавек. Пешыя пілігрымкі, якіх, паводле афіцыйных звестак, у 2020 годзе было 160, накіроўваліся ў Чанстахову або ў эстафетнай сістэме, або групамі з абмежаванай колькасцю паломнікаў, або ў выглядзе святароў-прадстаўнікоў. Прыбыло таксама нашмат менш шматлікіх, сямейных і індывідуальных пешых груп, якія не рэгістраваліся ў манастыры.

**ІСПАНІЯ.** Канферэнцыя біскупаў Іспаніі і шматлікія арганізацыі свецкіх католікаў у гэтай краіне раскрытыкавалі прадстаўлены ўрадам праект закона аб змене полу транссексуальнымі асобамі. Гэты дакумент, вядомы як “транс-закон”, прадугледжвае магчымасць змены полу на іншы, чым біялагічны, толькі на падставе жадання зацікаўленай асобы, без неабходнасці праходжання гарманальнай тэрапіі, медыцынскай кансультацыі альбо судовай працэдуры. “Гэты праект «транс-закона» пераўтварае пачуцце ў юрыдычную катэгорыю”, – ацаніў генеральны сакратар епіскапату Іспаніі біскуп Луіс Аргуэла, адзначаючы, што ў выпадку зацвярджэння парламентам новага закона, “жаданні асоб прымуць юрыдычную сілу суб’ектыўна”.

**ФРАНЦЫЯ.** Пасля прыняцця Нацыянальнай асамблеяй новай формы закона аб біяэтыцы французскія біскупы звярнулі ўвагу на неабходнасць вялікай адчувальнасці сумлення і асабістай адказнасці. Закон, між іншым, прадугледжвае даступнасць экстракарпаральнага апладнення для лесбійскіх пар і адзінокіх жанчын, а таксама стварэнне чалавечажывёльных хімер для навуковых мэт. Заяву ад імя Касцёла апублікаваў кіраўнік епіскапату Францыі арцыбіскуп Эрык дэ Мулен-Бафор. Па яго словах, новы закон з’яўляецца выразам перамогі ідэалогіі над паняццем чалавечай годнасці, якая належыць кожнаму чалавеку.

**ІТАЛІЯ.** “Карытас” Італіі арганізуе гуманітарныя калідоры ў цесным супрацоўніцтве з епіскапатам краіны, прадстаўнікамі ўрада і Вярхоўным камісарам ААН па справах бежанцаў. У Рым прыбылі чарговыя сем’і з дзецьмі з Судана, Эрытрэі, Камеруна і эфіопскага рэгіёна Тыграй. “Усе яны часова жылі ў лагеры бежанцаў, арганізаваным ААН у Нігеры”, – паведамляе Аліўера Форці, адказны за дапамогу бежанцам у італьянскім “Карытас”. Аналагічную ініцыятыву гуманітарных калідораў арганізуе Супольнасць св. Ідзія. Дзякуючы яе намаганням больш за 2 тысячы чалавек дабраліся да Італіі, не рызыкуючы жыццём пры пераправе праз мора.

*Падрыхтавана на падставе інтэрнэт-крыніц.*

# КРАМЯНІЦА. ЦУД СЯРОД ПАГОРКАЎ

*Андрэй Вашкевіч*

Вёска Крамяніца хаця і знаходзіцца ў Зэльвенскім раёне, аднак яе можна смела аднесці да гістарычнай Ваўкавышчыны. Бо Ваўкавыскі павет праіснаваў у больш-менш нязменных межах з XVI стагоддзя аж да 1939 года. Шчодра ўсыпаныя крэменем пагоркі (адсюль назва – Крамяніца), здаецца, не назавеш асабліва ўраджайнымі, але ўжо 500 гадоў таму Крамяніца згадваецца як багаты вялікакняскі двор, які па фундацыі Жыгімонта Старога забяспечваў ваўкавыскага пробашча дзесяткамі бочак жыта, ячменю і грэчкі. Прыкладна з 1560-ых гадоў Крамяніца апынулася ў руках прадстаўнікоў шляхецкага роду Вольскіх. Яны верна служылі Рэчы Паспалітай на палях бітваў, выстаўляючы ў войска ад сваіх валоданняў 24 коннікі і 11 пешых воінаў. Будучы адданымі католікамі, Вольскія таксама паклапаціліся пра ўзвядзенне аднаго з першых мураваных касцёлаў на Ваўкавышчыне. Віцебскі кашталян і ваўкавыскі маршалак Мікалай Вольскі разам са сваёй жонкай Барбарай у 1617 годзе запрасілі ў Крамяніцу манахаў Ордэна рэгулярных латэранскіх канонікаў. Гэта быў жабрацкі ордэн, дзейнасць якога абапіралася на статуце св. Аўгусціна.

У маі 1619 года быў пакладзены першы камень у падмурак мураванага касцёла і драўлянага кляштара. Вольскія падпісалі фундацыйны акт, перадаўшы кляштару фальварак Астроўшчына і вёску Марцінавічы. Фундатары, на жаль, не дачакаліся завяршэння будаўніцтва. У 1621 годзе памёр Мікалай Вольскі, а праз два гады – яго жонка Барбара. Іх сын Казімір на працягу некалькіх дзесяцігоддзяў змагаўся з даўгамі, страціў маёнтак, але ўсё ж не толькі дабудаваў касцёл, але і ўзвёў мураваны будынак кляштара, што дазволіла латэранскім канонікам праслужыць у Крамяніцы аж да 1832 года, трымаючы пры кляштары шпіталь для старых і хворых людзей, школку для дзяцей і вельмі прыстойную па тых часах бібліятэку. Дарэчы, некаторы час школкай і шпіталем апекаваліся гродзенскія манахіні брыгіткі. Маёнтак Крамяніца перадала брыгіткам сваячка Вольскіх Аляксандра Весялоўская з роду Сабескіх, якая выкупіла яго ў Казіміра Вольскага разам з даўгамі. У фондах Гродзенскага дзяржаўнага гісторыка-археалагічнага музея захоўваецца цяпер цэлы архіў дакументаў, звязаных з эканамічнай дзейнасцю брыгітак. У ім неаднаразова згадваюцца Пескі, Рагозніца, Крамяніца, а таксама размешчаныя там млыны, бровары, корчмы.

Касцёл св. Юрыя ў Крамяніцы – рэдкі на нашых землях прыклад архітэктуры позняга Рэнесансу. У будаўнічым выкананні храм тыпова гатычны, аднак адразу прыцягвае ўвагу яго галоўны фасад з аздобленымі нішамі.


А. Вашкевіч

*Сучасны выгляд парафіяльнай святыні ў Крамяніцы*

Гэта самая яскравая прыкмета рэнесансу ў святыні. А з улікам класіцыстычнага прытвору і барочных алтароў можна смела сказаць, што па крамяніцкаму касцёлу можна вывучаць гісторыю архітэктуры Беларусі. Тут відавочныя і рука майстроў, магчыма, нават кракаўскіх, і мясцовыя ўплывы. Аднак галоўным шэдэўрам касцёла, унікальным не толькі для Гродзеншчыны, але і для ўсёй нашай краіны, з’яўляецца выкананы з чорнага мармуру помнік фундатарам касцёла Мікалаю і Барбары Вольскім, пастаўлены яшчэ перад 1639 годам. Перад крыжам стаяць на каленях Мікалай у рыцарскіх даспехах і Барбара ў манаскай вопратцы. Надпіс па-лацінску заклікае памятаць пра вядомага ў італьянскай і германскай землях вернага католіка і рыцара Мікалая Вольскага, які памёр, не дажыўшы нават да сарака гадоў, аднак паспеў разам са сваёй жонкай зрабіць шмат добрага. Стоячы перад гэтым помнікам, думаеш пра многае: пра тое, як захаваліся гэтыя касцёл і помнік у бурлівых чатырох вяках нашай гісторыі, пра жыццё чалавека, які, пражыўшы не так і шмат, змог пакінуць пра сябе такую добрую памяць. Дарэчы, так склалася, што гісторыя захавала для нас не толькі скульптурныя партрэты Вольскіх на помніку, але і вялікія жывапісныя партрэты Аляксандры Весялоўскай і яе мужа Крыштафа, якія цяпер знаходзяцца ў пастаяннай экспазіцыі Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі ў Мінску. Будзем і мы памятаць пра гэтыя людзей, якія так выдатна паслужылі Божай справе на нашых землях.

# "Я ХАЦЕЛА Б УБАЧЫЦЬ СВАЕ ПРАЦЫ ЧУЖЫМІ ВАЧАМІ", – ЯДЗВІГА СЯНЬКО, МАСТАЧКА, ЯКАЯ ПІША ІКОНЫ

працяг са с. 1

**Праект быў задуманы восенню 2020 года. Да новага года мастачка аддала эскізы будучых абразоў, але толькі ў красавіку атрымала званок ад кс. Уладзіслава: "Ядзвіга, прыступаем да працы!". Па просьбе біскупа Казіміра Велікасельца да шасці напісаных копій дадаўся абраз Маці Божай Брэсцкай і, у апошні момант, гродзенская Маці Божая Кангрэгацкая.**



*У планах Ядзвігі Сянько – дапісаць копіі абразоў Юравіцкай і Гомельскай Маці Божай*

*Вольга Сяліцкая*

### ПЕРШАЯ ІКОНА – ПАЧАТАК ШЛЯХУ

Ядзвіга Сянько – мастачка і іканапісец. Сваю першую буйную працу – "Сэрца Марыі" – напісала ў 20 гадоў. Раму для палатна зрабіў тата-сталяр. Абраз мастачка падарыла касцёлу ў пасёлку Краснае, Маладзечанскага раёна, дзе ён доўгія гады візеў на адным з галоўных месцаў – ля амбона, а пазней быў перавешаны на калону.

Сваю ўсвядомленую творчую дзейнасць Ядзвіга пачала ў 1997 годзе ў праваслаўнай кнізе ў Мінску. Убачыла аб'яву аб супрацоўніцтве з мастакамі-іканапісцамі і прыехала ў сталіцу. Мастачку благаславіў мітрапаліт Філарэт, і яна пачала працаваць. З таго часу творчасць жанчыны звязана з іконамі і абразамі.



Зараз Ядзвіга піша ў асноўным каталіцкія абразы. На яе рахунку ўжо каля 2 300 работ. Але ў капліцы ёсць і пейзажы з нацюрмортамі: іх за творчую кар'еру назбіралася ўжо каля 600.

### ПРАЦАВАЦЬ, НЕ ВЫХОДЗЯЧЫ З ДОМУ

Мастачка працуе дома, каб не плаціць арэнду за майстэрню. *"Пішу шмат, я працаголік!* – кажа жанчына. – *Устаю ў 7.15. Затым малітва ды кава. І адразу саджуся за працу".*

Самую "пыльную работу" – падрыхтаваць палатно, зашліфаваць, наклеіць, прагрунтаваць – робіць муж. Ён прыносіць гатовыя палотны пад памер, які просіць Ядзвіга.

Малюнак наносіцца алоўкам і ў агульных колерах фарбамі. Затым абраз сохне (у добрае надвор'е гэта займае суткі). Праз дзень можна прапісваць усё грунтоўна: драпіроўкі, вочы, рукі – і палатно зноў прасыхае. Пасля дадаецца фарба залатога колеру, кладзецца толькі на сухі слой. Прапісваецца яшчэ раз тонкі пласт: румянец, дробныя штрыхі. Перад апошнім этапам палатно сохне двое сутак і ўжо потым пакрываецца мастацкім лакам для выраўноўвання паверхні і захавання алейных фарбаў.

Каб вочы не стамляліся, у абед мастачка стараецца выходзіць на вуліцу. *"Былі выпадкі, калі не выбіралася з дому некалькі дзён. Напрыклад, калі пісала гэтыя абразы для пілігрымкі, бо шкадавала часу, трэба было тэрмінова скончыць,* – дзеліцца Ядзвіга. – *З трапятаннем і малітвай я ў думках нібыта ішла з абразамі ў гэтай пілігрымцы. Гэта вельмі кранальна, што іконы, якія выйшлі з-пад майго пэндзля, аб'ехалі такую тэрыторыю. Калі бачыла, як людзі маліліся перад гэтымі абразамі, у мяне аж мурашкі па нагах бегалі: там жа часціца маёй душы! Я сачыла за паломніцтвам, глядзела фатаграфіі".*

У Ядзвігі Сянько ёсць 4 праекты выстаў:

1. Выстава "Кветкавы рай" – кветкавыя кампазіцыі, анёлы, Мадонны з кветкамі;
2. Выстава іканапісу, дзе толькі каталіцкія і праваслаўныя іконы;

**8 копій абразоў Маці Божай пасля паломніцтва па Беларусі да 30 чэрвеня знаходзіліся ў Гродне. З 1 па 3 ліпеня яны былі выстаўлены на ўрачыстасцях у Будславе, 10–11 ліпеня – у Тракелях. 18 ліпеня выявы Багародзіцы прывязуць у парафію Маці Божай Фацімскай у Баранавічах. Таксама іх можна будзе ўбачыць на ўрачыстасці Маці Божай Шкаплернай у Гудагаі.**

3. Выстава "Святло ікон" – уключае таксама працы пад даўніну;
4. Выстава "Свет душы маёй" – праект да юбілею Жыровіцкага манастыра.

*"Гэтыя праекты запланаваны на год наперад, і яны перапязджаюць па Беларусі",* – кажа Ядзвіга.



*Выстава мастачкі ў касцёле св. Сымона і св. Алены ў Мінску*

### НА ГРОДЗЕНШЧЫНЕ Я ТАКСАМА ЖЫВУ!

Іконы, якія піша мастачка раз'ехаліся па ўсёй Беларусі і не толькі. Дзве працы ёсць у Гродзенскім манастыры сясцёр назарэтанак: абраз благаслаўлёных сясцёр мучаніц з Навагрудка і абраз заснавальніцы кангрэгацыі бл. Францішкі Сядліскай. У Гродзенскім раёне абразы Ядзвігі Сянько знаходзяцца ў Міхалішках, Вярэйках і ў ваўкавыскай парафіі св. Станіслава Косткі.

Самы запамінальны заказ – 11 навагрудскіх мучаніц, 2 метры. Мастачка пісала яго для ксяндза ў Літве. Заказчык сам забіраў палатно, было праблематычна правезці яго праз мяжу. *"Ды і 11 твараў напісаць досыць складана",* – адзначае Ядзвіга.

Запомніліся таксама два абразы памерам каля 2 метраў для бакавых алтароў касцёла ў Міхалішках. Ядзвіга ставіла каля сцяны палотны, якія ўпіраліся ў столь, а ўнізе на каленях дапісвала працу. *"Я вельмі хвалявалася, таму што пісала не з арыгінала (яны былі выкрадзены), а з выявы ў календары. На здымку ўсё каля алтара застаўлена кветкамі. Але святар сказаў: «Памаліцеся, Ядзвіга». І я так працавала",* – успамінае мастачка.

### КАЛІ ТЫ ЗАПАТРАБАВАНЫ І ПАТРЭБНЫ – ГЭТА АДНА З ГАЛОЎНЫХ ПРЫЧЫН БЫЦЬ МАЛАДЫМ ДУШОЙ

Ядзвіга Сянько дорыць іконы сябрам і блізкім, ахвяруе храмам. *"Я выбарча дару свае работы, ведаючы, што чалавеку будзе гэта прыемна і што ён разумее ўсю праробленую працу,* – распавядае мастачка. – *Лічу, што высілак ідзе на карысць, калі ахвяруеш, дорыш святыні. Да таго ж добрая справа грэе душу".*

*"Я спадзяюся, што тыя малітвы, якія людзі ўзносяць каля напісаных мною абразоў, тыя добрыя пасылы перадаюцца часцінкай і мне. Што Бог узнагароджвае за маю працу. Мне ўжо 63 гады, але не адчуваю гэтага ўзросту. Калі ты запатрабаваны і патрэбны – гэта адна з галоўных прычын быць маладым душой. Усемагутны дае мне жаданне працаваць і жаданне тварыць, а таксама сілу і аптымізм. Сысці на пенсію і ўсесціся на лаўцы – барані, Божа!"* – сцвярджае мастачка.

У Ядзвігі ёсць мара, якая ніколі не споўніцца. *"Я хацела б убачыць свае працы чужымі вачамі",* – дзеліцца жанчына.

# АД БЕЛАРУСІ ДА ШВЕЙЦАРЫІ. ЦІ СПРАЎДЖВАЕЦЦА ПАЎСЮДНАСЦЬ КАСЦЁЛА?



працяг са с. 1

**Касцёл ахоплівае ўвесь свет, нездарма называючыся паўсюдным. А як выглядае гэтая паўсюднасць на практыцы? Ці сапраўды, дзе б ты ні быў, варта толькі адшукаць мясцовы каталіцкі храм – і ты нібы апынешся дома? Адчуеш той самы пах, пачуеш тыя ж словы, прасякнешся той самай атмасферай, трапіш у абдымкі любячага Айца…**

**Пра адметнасці Касцёла на чужбіне размаўляем з Марыкай Старановіч, верніцай з гродзенскай парафіі Божай Міласэрнасці, якая апошнія некалькі месяцаў працавала ў Швейцарыі.**

*Ангеліна Марцішэўская*

### “МНОГІЯ МЯСТЭЧКІ РАСЛІ ВАКОЛ КЛЯШТАРАЎ”

Швейцарыя мяжуе з Германіяй, Францыяй, Італіяй, Ліхтэнштэйнам і Аўстрыяй. То-бок, гістарычна склалася так, што яна знаходзіцца на скрыжаванні германскай і раманскай Еўропы. Гэта моцна паўплывала на ўнутранае жыццё краіны, таму Швейцарыю актуальна можна падзяліць на чатыры культурныя і моўныя часткі: нямецкую, французскую, італьянскую і раманшскую. Марыка жыла ў Цюрыху, нямецкім рэгіёне краіны, горадзе, па колькасці насельніцтва крыху большым за Гродна.

***“Там я налічыла 15 парафій. Першае, што кінулася ў вочы, – аўтэнтычнасць мясцовых святынь. Швейцарыя займала пазіцыю нейтралітэту падчас сусветных войнаў і дзякуючы гэтаму захавала сакральную архітэктуру ў непарушаным стане. Можна шпацыраваць па горадзе і цешыцца сярэднявечнымі капліцамі, а зазірнуўшы ўнутр – такімі ж старажытнымі роспісамі. Цікава, што ў адрозненне ад нас, у іх рэдка сустракаецца традыцыя вотаў. Замест іх вакол абразоў адлюстраваны канкрэтныя гісторыі цудаў. Напрыклад, намалявана, як маленькая дзяўчынка падае з брычкі, пасля над ёй моляцца, і наступае цудоўнае аздараўленне, а побач пазначаецца год здарэння. Увогуле, бачна, што край прасякнуты хрысціянскай культурай. Напрыклад, пабудаваны ў сярэдзіне XX стагоддзя швейцарскі аўтамабільны тунэль, які з’яўляецца самым доўгім у свеце, названы імем св. Бернарда”,*** – распавядае дзяўчына.

Марыка адзначае, што на хрысціянскіх асаблівасцях краіны пакінула свой след і рэфармацыя: ***“Значная частка мясцовых каталіцкіх святынь былаператворана ў пратэстанцкія. Знешне яны не адрозніваюцца ад традыцыйных касцёлаў, але ўнутры амаль не маюць убранства: няма ні абразоў, ні фігур. Цікава, што ў старэйшым касцёле Цюрыха – Фраумюнстэр 853 года, – які таксама адышоў пратэстантам, роспісы вітражоў былі адноўлены самым вядомым беларускім мастаком Маркам Шагалам*** *(хоць мастак і не быў хрысціянінам, між іншым, ён быў сусветна прызнаным майстрам вітражоў, якія прыбыў у Цюрых па запрашэнні тутэйшых рэстаўратараў – заўв. аўт.).* ***Непратэстантам нават трэба заплаціць за ўваход, каб убачыць гэтыя вітражы”.***



*Графіці з Мадоннай размяшчаецца акурат побач з месцам, дзе стаяць жанчыны, якія гандлююць сваім целам (у Швейцарыі легалізавана прастытуцыя). Паводле слоў гераіні артыкула, сімвалізм вулічнай ілюстрацыі ў тым, што Усявышні ні ў якіх абставінах не грэбуе намі, грэшнымі*

Разам з тым, у залежнасці ад рэгіёна, у Швейцарыі шмат дзяржаўных выхадных на каталіцкія святы. Людзі адпачываюць ва ўрачыстасць Спаслання Святога Духа, на першы і другі дзень Вялікадня, ва ўрачыстасць Божага Цела і г. д. Падтрымка Касцёла таксама арганізавана на дзяржаўным узроўні. Калі адбываецца перапіс насельніцтва, у асобнай графе грамадзянін указвае сваю канфесійную прыналежнасць і пасля сплачвае налог на Касцёл, з якога грошы ідуць на абслугоўванне святыні і заробак святару адпаведнай парафіі. У саміх касцёлах таксама ўсталяваныя “боксы”, куды кожны жадаючы можа пакласці ахвяру.

### “ПАДЧАС СВ. ІМШЫ ЎСЁ АДБЫВАЕЦЦА БОЛЬШ ХААТЫЧНА”

Марыка знаходзілася ў Швейцарыі падчас чарговай хвалі каранавіруса, а абмежаванні з-за пандэміі распаўсюджваліся і на Касцёл. Калі дзяўчына хацела трапіць на св. Імшу па-нямецку, мусіла прыйсці загадзя, бо ў касцёл пускалі толькі 50 чалавек. Каля ўвахода ў святыню стаяў чалавек, які адлічваў вернікаў і запісваў іх асабістыя даныя на выпадак, калі хтосьці з парафіі захварэе і трэба будзе паведаміць аб небяспецы асобам, якія былі ў кантакце.

***“Перад удзелам у св. Імшы я звычайна знаёмілася з чытаннямі на беларускай мове, бо падчас самой службы мала што разумела. Распазнаваць без высілку ўдавалася толькі спеў «Алелюя» і момант прыняцця Цела Хрыста. У швейцарскіх католікаў адрозніваецца ход літургіі: там, дзе мы стаім, яны могуць кленчыць, а там, дзе становімся на калені мы – яны ўстаюць і г. д. Прапускаецца вызнанне веры (малітва «Веру ў адзінага Бога»), часта апускаецца другое чытанне, замест якога могуць зачытаць павучальную прытчу або вытрымку з якой-небудзь «разумнай» кнігі, напрыклад, з «Маленькага прынца» Антуана дэ Сент-Экзюперы. Мяркую, такім чынам яны хочуць засведчыць аб сучасным падыходзе да св. Імшы, аблегчыць вернікам успрыняцце хрысціянскіх ісцін”,*** – дзеліцца Марыка.

Існуюць свае асаблівасці і ў адзначэнні галоўных хрысціянскіх свят. Калі ў Беларусі ў Пальмовую нядзелю касцёлы поўняцца вернікамі з вербачкамі розных памераў, колераў, па-рознаму аздобленымі, і нават ладзяцца конкурсы на самыя прыгожыя галінкі, то ў Швейцарыі Нядзеля Мукі Пана мае больш сціплы характар. Вернікі атрымліваюць асвечаныя галінкі аліўкавых дрэў з рук пробашча падчас урачыстай св. Імшы. ***“А на Вялікдзень мне давялося пазнаёміцца з католікамі бразільцамі, якія прыйшлі ў поўнае захапленне ад нашай традыцыі біцца велікоднымі яйкамі. Мы зладзілі цэлае спаборніцтва з выхадам у фінал”,*** – дадае з усмешкай дзяўчына.

### “СПОВЕДЗЬ – НЕ ДАНАСЦЬ, А ДАР”

Мы прызвычаіліся, што ў Беларусі, у які б касцёл ні зайшоў, амаль заўсёды знойдзеш ксяндза, што сядзіць у канфесіянале. Скарыстаць сакрамант пакаяння і паяднання можна як перад, так і пасля св. Імшы. У Швейцарыі ўсё выглядае кардынальна інакш. Для споведзі ў парафіі выдзелена 1 гадзіна ў тыдзень – напрыклад, кожную суботу з 16.00 да 17.00. Дзень і час можна праверыць на парафіяльным сайце. Калі ж хочаш дамовіцца на іншы тэрмін, трэба сазваніцца са святаром або звязацца з ім праз электронную пошту. ***“Мяркую, што тэндэнцыя пайшла ад саміх вернікаў. Пачалі менш спавядацца, і святары, каб не «праседжваць» дарма ў канфесіянале, перайшлі на такі фармат”,*** – дадае Марыка.

***“У вігілію Пяцідзесятніцы мне давялося апынуцца ў маленькім мястэчку Лакарно ў італьянскай частцы Швейцарыі. Я акурат мела вялікую патрэбу ў споведзі, але шанс быў мізэрны. З інтэрнэту даведалася, што там месціцца санктуарый «Madonna del Sasso», што ў перакладзе азначае «Багародзіца на камені»*** *(у ноч з 14 на 15 жніўня 1480 года Марыя аб’явілася тут мясцоваму манаху францысканцу – заўв. аўт.)****, да якога трэба было ісці 3 кіламетры ўгору. Калі падымалася, малілася Ружанцам аб дары споведзі. Прыйшоўшы на месца, не застала ані св. Імшу, ані духавенства. Убачыла толькі некалькі старых, што спявалі на лаціне,*** – працягвае дзяўчына. – ***І раптам, шпацыруючы па ваколіцы, сустрэла манаха капуцына. Ён пагадзіўся ўдзяліць сакрамант. Гэта была споведзь з вельмі патрэбнымі мне словамі святара. Калі я пазней распавяла гэтую гісторыю сваёй швейцарскай сяброўцы, яна расплакалася. Бо сустрэць у правінцыяльным мястэчку манаха, які размаўляе па-англійску і пагаджаецца на споведзь без папярэдняй дамовы (швейцарцы руплівa ставяцца да выканання правіл) – гэта цуд. А для мяне самой гэтая гісторыя стала сведчаннем клопату Бога пра маю душу”.***

### “НІЧОГА НЕЗРАЗУМЕЛА, АЛЕ ЎСЁ ЗРАЗУМЕЛА”

Марыка прызнаецца, што менавіта на св. Імшы па-нямецку, дзе амаль ні слова не магла разабраць, яна злавіла сябе на думцы, што Касцёл універсальны. Парадаксальна, але менавіта моўныя складанасці дапамаглі ёй гэта ўсвядоміць. ***“Бог знойдзе цябе ў любой кропцы свету насуперак розным непаразуменням. Бо «сэрца» св. Імшы – перамяненне хлеба ў Цела Хрыста – паўсюль аднолькавае. Насамрэч усе астатнія моманты літургіі з’яўляюцца толькі дапамогай, якая павінна спрыяць большай канцэнтрацыі на прыняцці св. Камуніі. Часам дастаткова моўчкі скласці рукі на грудзях, прыняць Езуса, прамовіць «амэн» – і ты атрымаеш усё, за чым увогуле прыйшоў на службу,*** – разважае дзяўчына. – ***Швейцарыя – шматнацыянальная краіна. Гэта адлюстроўваецца і ў мясцовым Касцёле. Падчас св. Імшы я адчувала яднанне з такімі рознымі людзьмі менавіта дзякуючы Целу Хрыста. І я расчулілася і плакала, бо нанова ўсвядоміла: дзе б ні была – Бог побач. Бог нязменны”.***

Касцёл нязменны.

---

**ЗАДАЙ ПЫТАННЕ**

## Ці ёсць у чалавека біяполе?

*grodnensis.by*

*Падчас размовы мы карыстаемся пэўнымі словамі, тэрмінамі, паняццямі, фармулёўкамі, каб зразумець адзін аднаго. І гэтыя словы становяцца больш канкрэтнымі, калі размаўляем на канкрэтныя тэмы з пэўнай галіны навукі. У матэматыцы адны, у медыцыне іншыя. Таму і гаворачы пра “біяполе”, трэба разумець, да якой сферы гэтае паняцце ды з’ява адносяцца і хто імі карыстаецца.*

*“Біяполе”, “біяэнергія”, “біяэнергатэрапія”… Паняцці біяполя і біяэнергетыкі вызначаюць з’явы, якія навука не ідэнтыфікавала. Мы ўжо ведаем, што біяэнергатэрапія – гэта выкарыстанне невядомай энергіі, спецыфічныя эфекты якой не можам бачыць. Але мы таксама ведаем, што гэтая энергія не належыць фізічнаму свету, не можам назваць яе. Яна невядомая фізіцы, і адзіным суб’ектам, які можа мець справу з гэтымі энергіямі, з’яўляецца чалавечая псіхіка. Людзі, якія могуць дзейнічаць у свеце акультызму, – гэта тыя, хто можа ўвайсці ў стан зліцця, яднання з гэтымі энергіямі. Мы называем такіх людзей экстрасэнсамі, медыумамі. Медыум здольны адкрыцца для гэтых энергій, прыняць іх і, магчыма, выкарыстаць потым. І калі чалавек-медыум выкарыстоўвае гэтыя энергіі, ён займаецца магіяй. Большая частка маніпуляцый знахараў – проста магія. Такім чынам, ёсць энергіі, якімі мы не можам кіраваць, і доступ да іх можам атрымаць толькі праз экстрасэнса, які становіцца каналам, што іх перадае. Так адбываецца большасць сакрэтных і акультных практык, якія даюць выгляд цудоўных вылячэнняў. Альтэрнатыўная медыцына не можа рабіць цуды, бо цуды – гэта толькі Божае дзеянне.*

*“Усе практыкі магіі або вядзьмарства, пры дапамозе якіх чалавек імкнецца атрымаць сакрэтныя сілы, каб выкарыстаць іх і дасягнуць звышнатуральнай улады над бліжнім (нават дзеля яго здароўя), знаходзяцца ў сур’ёзнай супярэчнасці з рэлігіяй. Гэтыя практыкі варта асуджаць, асабліва калі яны суправаджаюцца намерам нанесці шкоду іншаму чалавеку альбо звязаны з умяшаннем дэманаў. Таксама варта асуджаць нашэнне амулетаў. Спірытызм часта ўключае ў сябе варажбу ці магію. Таму Царква заклікае вернікаў сцерагчыся іх”, – чытаем у Катэхізісе Каталіцкага Касцёла (§ 2117).*

*Чалавек складаецца з душы, цела, вольнай волі і розуму. А ці можа душа ўздзейнічаць на іншага, альбо ці можам дзяліцца душою? Напэўна, можам!*













**РАЗВАЖАННІ З БОЖЫМ СЛОВАМ**

*Кс. Юрый Марціновіч*

***11 ліпеня – XV Звычайная нядзеля***
***Мк 6, 7–13***

Езус паклікаў Дванаццаць і пачаў высылаць іх па двое, і даў ім уладу над нячыстымі духамі. І наказаў ім не браць у дарогу нічога, апрача толькі кія: ні хлеба, ні торбы, ні медзі ў поясе, але абувацца ў сандалі і не апранаць дзвюх вопратак. І сказаў ім: "Калі дзе ўвойдзеце ў дом, заставайцеся там, пакуль не выйдзеце адтуль. І калі ў якім месцы не прымуць вас і не будуць слухаць вас, то, выходзячы адтуль, абтрасіце пыл, што пад нагамі вашымі, дзеля сведчання супраць іх".

І, пайшоўшы, яны прапаведавалі пакаянне, і выганялі шмат дэманаў, і шмат хворых намашчвалі алеем, і вылечвалі.

## Самае каштоўнае лякарства

*Пан Езус, адпраўляючы сваіх вучняў у дарогу, не дазваляў ім браць тое, што здавалася неабходным: ежу, дарожную сумку і грошы. Узамен ён даў ім уладу над нячыстымі духамі. Яны маглі вылечваць людзей ад хвароб душы і цела.*

*У жыцці мы пастаянна вучымся выбіраць паміж тым, што чалавечае, і тым, што паходзіць ад Бога. Кожны чарговы дзень з'яўляецца для нас выклікам. Апосталы, выпраўляючыся ў дарогу, павінны былі цалкам даручыць сябе Божаму Провіду. Пан Езус забараніў ім браць ежу і грошы не для таго, каб прынізіць і падвергнуць непатрэбным стрэсам, але каб навучыць верыць. Ён прапанаваў ім свабоду ад зямнога і смяротнага. Узамен яны атрымалі нешта значна больш каштоўнае, бо ўлада над нячыстымі духамі і харызма аздараўлення значаць нашмат больш, чым нават самы вытанчаны і смачны абед.*

*Кожны хрысціянін запрошаны быць сведкам вызнаваемай веры. Мы павінны выходзіць насустрач іншаму чалавеку і аздараўляць яго, перш за ўсё, праз любоў, якая з'яўляецца самым каштоўным і эфектыўным лякарствам. Гэтай любові нельга ні навучыцца ў школе, ні купіць яе ў краме нават за самыя вялікія грошы. Яна з'яўляецца дарам, які атрымліваем дзякуючы яднанню з Богам. Толькі гэтая любоў можа выдаліць з людскіх сэрцаў дэманаў цемры, граху і хвароб.*

*Пане Езу Хрысце, учыні, каб я мог выходзіць насустрач іншаму чалавеку і аздараўляць яго праз любоў, якая з'яўляецца самым каштоўным і эфектыўным лякарствам!*

***18 ліпеня – XVI Звычайная нядзеля***
***Мк 6, 30–34***

Сабраліся Апосталы каля Езуса і расказалі Яму ўсё, што зрабілі і чаму навучылі. І Ён сказаў ім: "Пайдзіце адны ў пустыннае месца і крыху адпачніце". Бо так шмат людзей прыходзіла і адыходзіла, што нават не было ім калі паесці. І адплылі яны ў пустыннае месца на чаўне адны.

І ўбачылі, што яны адплылі. І шмат хто, даведаўшыся, пешкі збегліся туды з усіх гарадоў і апярэдзілі іх. Выйшаўшы, Езус убачыў мноства людзей і злітаваўся над імі, бо яны былі як авечкі без пастыра. І пачаў іх вучыць многаму.

## Сапраўдны адпачынак

*Езус нагадвае нам пра неабходнасць адпачынку. І нават калі здаецца, што ў нас яшчэ столькі спраў, дазвольма Боскаму Настаўніку запрасіць сябе і трохі адпачнём. Езус Хрыстус, убачыўшы стомленасць вучняў, паступіў як добры начальнік, які паважае сваіх калег і, разумеючы, што яны працуюць з апошніх сіл, адправіў іх на абавязковы адпачынак.*

*У сучасным імклівым свеце ўсё большым мастацтвам становіцца здольнасць спыняцца. Уменне сказаць сабе ў патрэбны момант: хопіць, зараз неабходна адпачыць! Я хачу прысвяціць больш часу на суцішэнне, на малітву і для сваіх блізкіх. Хачу адрадзіць у сабе "духоўнага чалавека".*

*Езусава "крыху адпачніце" з'яўляецца для нас важнай падказкай і працягам старазапаветнага закона аб захаванні святога дня. Каб падчас летняга адпачынку не пакінуць Бога ў баку, а паспрабаваць зарадзіць уласныя "батарэйкі", каб мець сілы на цэлы год. Наша цела мае патрэбу ў адпачынку, а дух – у новай унутранай сіле.*

*Езус злітаваўся над натоўпам, які ішоў за Ім, і пачаў вучыць народ. Яго пастырскае сэрца не вытрымала выгляду людзей, якія згубіліся і блукалі ў пошуках выратавання. Клопат Божага Сына ахоплівае кожнага чалавека. Ён заўсёды з намі ў сваёй таямнічай, поўнай любові манеры – не забіраючы нашай свабоды і незалежнасці. Не толькі мы прыходзім да Бога кожны тыдзень, але, перш за ўсё, Ён прыходзіць да нас кожны дзень, зноў і зноў. Не баймася заклікаць Яго ў кожнай жыццёвай сітуацыі.*

*Пане Езу Хрысце, дазволь мне адчуць Тваю любоў, каб падчас летняга адпачынку я здолеў аднавіць сваё духоўнае жыццё!*

## АД ШЧЫРАГА СЭРЦА

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ЗЯНОНУ РАМЕЙКУ

*з нагоды дня нараджэння і імянін жадаем моцнага здароўя, душэўнага супакою, радасці на кожны дзень і поспехаў у душпастырскай паслузе. Няхай Найсвяцейшая Панна Марыя і святы заступнік заўсёды апекуюцца Вамі, а Анёл-ахоўнік чувае і дапамагае годна пражыць кожны дзень. Няхай на дарозе, якую ўказаў Бог, Вам заўсёды спадарожнічаюць Езус і Яго Найсвяцейшая Маці, удзяляючы блаславенне і ўсе патрэбныя ласкі, а Святы Дух, жывы агонь якога палымнее ў Вашым сэрцы, няхай будзе бясконца шчодры на свае дары. Жадаем мноства радасных хвілін у гэты цудоўны дзень і на ўсё жыццё.*

З малітвай члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам і Ружанцовыя колы з Астрыны

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ВІТАЛІЮ ВНАРОЎСКАМУ

*з нагоды імянін жадаем моцнага здароўя, радасці, супакою, нястомнасці ў душпастырскай паслузе на кожны дзень. Заўсёды будзьце ахоплены промнямі Божай міласэрнасці, Божай ласкай і апекай Найсвяцейшай Панны Марыі і святога заступніка. Ад усяго сэрца дзякуем Вам за працу ў нашай парафіі!*

З малітвай члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам з Адэльска

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ПАЎЛУ ЗВЯЖЫНСКАМУ

*з нагоды дня нараджэння жадаем добрага здароўя, нязгаснага душэўнага запалу ў святарскай паслузе, а таксама рэалізацыі ўсіх намераў і планаў. Няхай вера становіцца яшчэ больш шчырай, а абвяшчаемае Вамі Слова ўсё глыбей трапляе ў сэрцы вернікаў. Жадаем, каб Ваша жыццё было жывым голасам Евангелля, красамоўным сведчаннем першынства Бога і доказам любові. Няхай Найсвяцейшая Панна Марыя ахінае Вас сваёй любоўю і апекай ды выпрошвае ў Сына патрэбныя ласкі і сілы, неабходныя для кіравання нашай парафіяй і абвяшчэння Божага слова.*

Парафіяне касцёла св. Антонія ў Карэвічах

### ПАВАЖАНЫ КСЁНДЗ ДЗЯНІС БРАЗІНСКІ!

*Мы шчыра Вам удзячны за паслугу ў нашым касцёле. Дзякуем таксама выкладчыкам і выхавацелям Гродзенскай ВДС, Вашай маме і родным за тое, што вывучылі і выгадавалі такога разумнага і добрага святара. Вы заўсёды адкрыты, энергічны і радасны, заўсёды падрыхтаваны да абвяшчэння Божага слова. Вашы казанні мы вельмі ўважліва слухаем. Ад шчырага сэрца жадаем Вам здароўя, шмат сіл, душэўнага супакою, неабходных ласкаў ад добрага Бога і багатага плёну ў святарскім служэнні. Няхай усмешка ніколі не сыходзіць з твару, а шчырае сэрца заўсёды будзе гатова дзяліцца радасцю з Богам і людзьмі. Дзякуем маме за сына святара і жадаем ёй моцнага здароўя, доўгіх гадоў жыцця і Божага блаславлення.*

З малітвай і павагай парафіяне касцёла свсв. апап. Пятра і Паўла ў Іўі

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ПРОБАШЧУ АНТОНІЮ КАЗЛОЎСКАМУ

*нагоды дня нараджэння перасылаем сардэчныя пажаданні. Няхай міласэрны Бог узнагародзіць Вас моцным здароўем, сілай, нязгасным запалам у святарскай паслузе, Маці Божая прытуляе Вас да свайго сэрца і ахінае апекай, а Пан Езус благаслаўляе на далейшыя гады працы на карысць Богу ды людзям і ўзнагароджвае за кожны высілак.*

Парафіяне з в. Малінавая

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ УЛАДЗІМІРУ АКСЕНЦЬЕВУ

*з нагоды імянін перасылаем букет найлепшых пажаданняў. Няхай Ваш святарскі шлях будзе шчаслівы і блаславлёны, а побач будуць толькі добразычлівыя людзі. Няхай супакой і радасць паселяцца ў Вашым сэрцы, а ўсмешка ніколі не сыходзіць з твару. Жадаем моцнага здароўя, сіл і стойкасці, а таксама моцнай веры, надзеі і любові.*

З малітвай члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам з Лядска

### ПАВАЖАНЫ КСЁНДЗ ВІКТАР САВІЦКІ!

*Ад усяго сэрца віншуем Вас з нагоды 40-годдзя з дня нараджэння і жадаем духоўных ды фізічных сіл, моцнага здароўя, шчодрай Божай дапамогі, апекі Найсвяцейшай Маці, творчага натхнення. Дзякуем за Вашу шчырую малітву ў нашых інтэнцыях і за кожны дзень служэння Касцёлу і людзям.*

Парафіяне касцёла св. Міхала Архангёла ў Нецечы

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ПРОБАШЧУ ЮРЫЮ БАРТАШЭВІЧУ

*з нагоды дня нараджэння перасылаем букет найлепшых пажаданняў. Няхай здароўе будзе моцным, у сэрцы заўсёды госціць супакой, Пан Бог адорвае шчодрымі ласкамі, Святы Дух удзяляе свае дары, Езус і Маці Божая ахінаюць Вас апекай і прытуляюць да свайго сэрца, а Анёл-ахоўнік аберагае ад бед, дадае сіл і жыццёвай мудрасці. Дзякуем Пану Богу за дар Вашага жыцця і прысутнасць сярод нас, а таксама ўзносім Яму малітвы, каб заўжды па Яго міласці сонейка асвячала Вам дарогу.*

З вялікай павагай і малітвай апостальства "Маргарытка" і вернікі касцёла ў Жырмунах

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ПРОБАШЧУ ГЕНАДЗІЮ КУХАРЭВІЧУ

*з нагоды дня нараджэння жадаем Божага блаславлення на кожны дзень паслугі, апекі Маці Божай Нястомнай Дапамогі, заступніцтва святых Пятра і Паўла і святога Міхала Арханёла. Дзякуем Вам за прыклад веры і за ахвярную ды апякунчую паслугу ў нашай парафіі.*

З дарам малітвы парафіяне касцёла ў Ізабеліне

***Рэдакцыя пакідае за сабой права скарачаць і аб'ядноўваць пажаданні.***

## КАТАЛІЦКІЯ СМІ БЕЛАРУСІ




**інтэрнэт-партал Касцёла ў Беларусі**

Ігнацыянская духоўнасць перажыла выпрабаванне часам і прынесла вялікі духоўны плён у жыцці многіх пакаленняў вернікаў. Прапануем пяць крокаў штодзённага рахунку сумлення паводле метаду св. Ігнацыя Лаёлы:

1. Падзякаваць: узгадаць усё добрае, што было на працягу дня, нават калі ён быў вельмі цяжкім. 2. Папрасіць святла: пастарацца паглядзець на свой дзень вачыма добрага Бога, які жадае дапамагчы. 3. Паўтарыць свой дзень: пастарацца прыгадаць усе моманты дня і заўважыць, што ўздымала мяне ўгору, а што апускала ўніз. 4. Папрасіць прабачэння ў Бога: шчыра прызнаць усё тое, што раніла мяне і іншых. 5. Паабяцаць зрабіць крок наперад з дапамогай Яго ласкі: запытацца ў Езуса, што магу зрабіць у жыцці лепш.




**рэлігійны часопіс**

Св. Брыгіта пачула ў адным з аб'яўленняў, што той, хто хоча прыпадобніцца да Езуса і яднацца з Ім на працягу ўсяго жыцця, павінен часта спавядацца, прычым не толькі з грахоў, але таксама з недасканаласцей. Вернікі, якія рэгулярна приступаюць да сакраманту споведзі, ведаюць, што Хрыстос праз паслугу святара не толькі адпускае грахі ды дапамагае духоўна расці, але і напаўняе чалавечую асобу сваёю прысутнасцю, якая наблізіае да Бога – Крыніцы ўсялякай святасці.

З біяграфій святых можам даведацца, наколькі важнай для іх была споведзь і як часта яны спавядаліся. Калі хтосьці дайшоў да з'яднання з Богам праз любоў, споведзь становіцца для яго спосабам камуніі з Богам і матывуецца не грахамі, а набожнасцю.




**беларуская рэдакцыя**

У папскіх універсітэтах уводзіцца новы курс – "Жанчыны і Касцёл". Марта Радрыгес, супрацоўніца адной з ВНУ, падкрэслівае, што дадзены курс мае на мэце актывізаваць працэсы, якія падтрымаюць больш эфектыўнае супрацоўніцтва мужчын і жанчын у Касцёле.

Курс адрасаваны духавенству, кансэкраваным асобам, свецкім вернікам, мужчынам і жанчынам, якія ўдзельнічаюць у жыцці Касцёла на ўзроўні біскупскіх структур, акадэмічнага свету і манаскіх інстытутаў. Заняткі будуць складацца з некалькіх модуляў. Напрыклад, адзін з іх – марыялагічны, "развівае тое, што кажа постаць Марыі пра тоеснасць і місію жанчыны ў Касцёле". Іншы – "паглыбляе значэнне сексуальных адрозненняў чалавечай асобы".




**інтэрнэт-партал Гродзенскай дыяцэзіі**

27 чэрвеня ў Познані (Польшча) чатыры сястры з супольнасці Місіянерак Хрыста Валадара прынеслі першыя манаскія абяцанні чысцасці, убоства і паслухмянасці. Сярод іх была с. Анастасія Мішкура з Гродзенскай дыяцэзіі, якая паходзіць з парафіі св. Мікалая ў Геранёнах (дэканат Іўе).

Перад уступленнем у супольнасць с. Анастасія скончыла Катэхетычны каледж імя Зыгмунта Лазінскага ў Баранавічах (Пінская дыяцэзія). Пэўны час была катэхеткай у сваёй роднай мясцовасці, праводзіла заняткі для дзяцей і моладзі пры Геранёнскай парафіі, а таксама працавала настаўніцай пачатковых класаў у Іўі.

**Актуальныя навіны, фота, відэа. Даведайся больш пра жыццё Каталіцкага Касцёла на Гродзеншчыне!**

Інфармацыйна-рэлігійная газета Гродзенскай дыяцэзіі **Слова Жыцця**; галоўны рэдактар – **кс. Юрый Марціновіч**;
заснавальнік – **Гродзенская рымска-каталіцкая дыяцэзія**; год заснавання – **1997**; рэгістр. **№1085**; выдавец – **курыя Гродзенскай дыяцэзіі**.
Рэдакцыя газеты: **230025 Гродна, вул. К. Маркса, 4**; тэл. **(80152) 61-05-37; (8029) 571-30-77** (мтс); e-mail: **slowo.grodnensis@gmail.com**; **http://www.slowo.grodnensis.by**. Тэхнічны рэдактар – Юрый Лавыш.
Друк: **ГАУПП«Гродзенская друкарня»**, ЛП 02330/39 ад 27.03.2014 г. 230025 Гродна, вул. Паліграфістаў, 4; нумар заказу 2550; тыраж 4700; аб'ём газеты – 2 умоўна друкарскія лісты.
Якасць друку адпавядае якасці прадстаўленых дыяпазітываў; цана адвольная.